# ПАГОНЯ

Адрэс рэдакцыі і канторы:
Вуліца Адама Міцкевіча, 13-а.
Тэлефон № 23.

Рэдакцыя адчынена што дзень
ад 1—2 гадз.
Кантора адчынена што дзень
ад 8—3 гадз.

## ГРАМАДЗКАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ЧАСОПІСЬ.

ВЫХОДЗІЦЬ ЧАСОВА РАЗ У ТЫДЗЕНЬ.

Падпіска каштуе:
на 10 № № ўпярод — 10 зал.
„ 5 „ „ — 5 „
Кошт асобнага № — 1 „

Рукапісы
не прынятыя да друку назад не вертаюцца; прынятыя аплачываюцца па погляду Рэдакцыі.

Абвесткі ўселякага разьмеру прыймаюцца коштам за радок маленькага друку 2 залаты на опошняй страніцы незалежна ад зьместу.

№ 8. | Коўна, Чацьверг, 16 верэсьня 1920 году. | Год I-шы.

Спаўняючы абавязкі Прэзыдэнта Рэспублікі, Старшыня Устаноўчага Сойму апавешчае гэты закон, прыняты Устаноўчым Соймам 13 жніўня 1920 г.

## ЗАКОН

аб прэдастаўляемым Сабраньню Старэйшын Устаноўчага Сойму праве сьлядзіць за правільным выканаíньнем законаў.

Ў часе перарыву, права сьлядзіць за выканаíньнем законаў, за выключэньнем права інтэрпэляцыі, пленумам пасядзэньня Устаноўчага Сойму даручаецца Сабраньню Старэйшын Устаноўчага Сойму.

**А. Стульгінскі,**
спаўняючы абавязкі Прэзыдэнта Рэспублікі,
Старшыня Устаноўчага Сойму.

**Д-р Грынюс,**
Старшыня Міністраў.

Спаўняючы абавязкі Прэзыдэнта Рэспублікі Старшыня Устаноўчага Сойму апавешчае гэта пастанаўленьне, прынятае Устаноўчым Соймам 13 жніўня 1920 году.

**Пастанауленьне аб прызыву новабранцау.**

Гэтым апавешчаецца прызыў ўсіх мужчын, літоўскіх грамадзян, радзіўшыхся ў 1894, 1895 і 1901 г. г. Міністэр Краевай Абароны устанаўлівае час прызыву і праводзіць пастанаўленьня аб прызыву новабранцаў.

**А. Стульгінскі,**
спаўняючы абавязкі Прэзыдэнта Рэспублікі,
Старшыня Устаноўчага Сойму.

**Д-р Грынюс,**
Старшыня Міністраў.

Коўна 14 жніўня 1920 г.

◆◆◆◆◆◆

## Што дзеецца у Ашмяншчыне?

(перэдрукавана з Віленскай газэты „Літва“).

Пятнаццацехмесячнае гаспадараньне палякоў у Ашмячншчыне давяло да таго, што насяленьне Ашмянскага павету, апрача паноў і шляхты, з нецярпеньнем ждала тае часіны, калі яно аслабоніцца ад польскага панаваньня. Дык няма дзіва, што прыход бальшэвіцкага войска быў сустрэчаны наагул добра. Усе цешыліся, што праганяюць палякоў, меншая несьвядомая частка хацела бальшавікоў, узноў такі як абароньнікаў ад палякоў.

Аб тым, што край адыходзіць паводле мірнае умовы да Літвы, насяленьне спачатку даведалася ад бальшавіцках камэндантаў, каторыя ня маючы адразу інструкцый ад камуністычнае партыі аб разагітаваньні насяльньня і стварэньня „чырвонае Літвы“, сьпярша казалі праўду. Потым-жа людзі самі патраплялі даведавацца. Пляновую і сыстэматычную агітацыю за Літву вядзе у Ашмяншчыне Беларуская Народная Партыя. Арганізацыям гэтае партыі шмат прышлося папрацаваць, каб пераканаць жыхараў, што хоць яны беларусы, адылі ім карысьней належаць да Літвы, асабліва пры створаным цяпер палітычным палажэньні. Трэба было давесьці, што беларусы будуць мець свабоднае разьвіцьце у Літве, што яны будуць магчы вучыцца пасвойму, пабеларуску, што прымушаць іх гаманіць і вучыцца палітоўску ніхто ня будзе, што прылучэньне да Літвы часьці беларускае зямлі, ня толькі не пашкодзіць адраджэньню усяго Беларускага Народу, але навет можа памагчы яму, бо, трэба спадзявацца, што беларушчына у Літве будзе у лепшых варунках, што незалежнае беларускае гаспадарства можа стварыцца бяз гэтае часьці, бяз шкоды для сябе і для гэтае часьці, што прылучэньне да Літвы, з каторая мы жылі некалі разам, зусім розьніцца ад прылучэньня да Польшчы, або да Маскоўшчыны, што абвешчаная бальшавікамі незалежная беларуская савецкая рэспубліка е толькі на паперы, а што запраўды там кіруюць усім прыяжджомыя чужнікі - маскалі. Праца сьвядомых беларусоў пры падмозе бальшавіцкіх „раеў“, каторых людзі ужо пасьпелі паспытацца, мела поўную удачу. Цяпер 99 з гакам процэнтаў насяленьня Ашмянтчыны і сумежнае Вялейшчыны хоча як найбарджджэй разьвітаца з бальшавікамі і 95 % хоча належыць да Літвы. Да Літвы хоча належыць усё сялянства і мяшчанства, якія так ці інакш ёсьць пад уплывам беларускіх дзеячоў. Да Літвы хочуць і усе жыды. За тое заўзята проці Літвы выступае спалячаная шляхта і паўпанкі. Як жукі вылазяць яны з сваіх нор і гудзяць, што Літва, гэта так сабе, гэта часова і што сюды прыйдзе Польшча. Пэуне, што нахінуць да Польшчы ім нікога не удаецца, але яны ствараюць тую няпэўнасьць, якая яшчэ доўга будзе перэшкаджаць супакойнай здаровай працы грамадзян Літвы.

Каб заагітаваць сялян і вынесьці рэзалюцыю проці прылучэньня да Літвы, камуністы 25-га жніўня згукалі у Ашмяне „сялянскі беспартыйны зьезд Ашмянскяга павету“ На зьезд назначана было пасылаць ад кожных 500 чал. аднаго прэдстаўніка Выбарамі дэлегатаў кіравалі валасныя „рэўкомы“. У вадных валасьцях дэлегаты запраўды былі выбраны, у другіх, як у Валожынскай, Забрэзкай, Беніцкай проста назначаны (недалека ад гэтых валасьцяў у м. Гарадку, Вялейскага пав. е „чрэзвычайка“, каторая прыяжджае у „госьці“ ажно у Альшаны. „Чрэзвычайка“ сваім уплывам і прымусіла суседнія рэўкомы пусьціцца на комбінацыю назначэньня). Адны валасьці пасылалі ахвотна сваіх дэлегатаў, думаючы на зьездзе абараніць сваю справу, іншыя (як прыкл. Куцеўская), баючыся каб камуністы іх не ашукалі, адмовіліся пасылаць на зьезд сваіх дэлегатаў. Дык да гэтага старшыні рэўкомаў—камуністы куляметамі прымушалі. Адылі некаторыя валасьці усе-ж ткі дэлегатаў на зьезд не паслалі. На зьезд 25 жніўня прыехала 244 чалавекі. Арганізатары зьезду — камуністы, апроч таго упусьцілі з пастанаўляющым голасам у залю пасяджэньняў зьезду каля 50 чал. разных сваіх вайсковых і службовых камуністаў, з зоркамі на шапках. Мандатная камісія не абіралася, а мандаты правералі назначаныя паветавым рэўкомам камуністы.

Пасьля дакладу і прамоў камуністаў ставіцца на галасаваньне рэзалюція, скіраваная проці прылучэньня да Літвы „Хто за рэзалюцыю?“ Пытаецца кіраўнік зьезду Шувалов. Рукі падымаюцца рэдка. Ня лічучы галасаў ен загадавае апусьціць рукі. „Хто проці?“ Падымаецца блізу гэталькі, колькі і за. Лічаць галасы і налічаваюць 40. „Хто ўзьдержыўся?“ Налічаваюць 17. „Значыцца, кажа Шувалов, 40 проці, 17 уздзержылася, гэткім парадкам рэзалюцыя прайшла вялізнаю большасьцю галасоў“. Але учасьнікі зьезду, угледзіўшы, што сталася, і упіканыя сваймі кіраўнікамі, што яны сваім страхам губяць справу, сьцемілі, што няма дзе дзецца, трэба выступаць адважна, паднялі страшны крык, дабіваючыся патайнога галасаваньня. Ім заяўляюць камуністы, што патайнае галасаваньне„ буржуазная выдумка“, што яго дапусьціць нельга. Нічагусінькі не помагае. Увесь зьезд крычыць у надзвычайным страсе, каб іх Ашмяншчына не адышла да бальшавікоў. Беларускі дзеяч І. П., выбраны сэкрэтаром Прэзыдыума, заяуляе, што калі патайнае галасаваньне буржуазная выдумка, дык пакласьці рэзалюцыю на стале і хто за яе, няхай ідзе і падпісуе. З гэтым узноу ніяк ня могуць згадзіцца камуністы. Пасьля траха двугадзінных умаўляньняў, нічога не дабіўшыся, камуністы абвяшчаюць перарыу на $1\frac{1}{2}$ гадз. і просяць усіх дэлегатаў на палудзень Подчас. перарыву арганізаторы зьезду—камуністы пушчаюць паміж дэлегатамі сваіх агітатарау. Пасьля перарыву пачынаецца узноу пасяджэньне зьезду, але тут ужо бачым ува усіх дзьвярах па некалькі чарвонаармейцау з стрэльбамі у руках. Гэткія-ж чарвонаармейцы паутыканы і у залі паміж дэлегатамі. Галасаваньнем прайшло, што рэзалюцыю трэба перагаласаваць Пасьля даўгіх умаўляньняў каб галасаваньне было адкрытае, ня гледзячы на тое, што зьезд стаіць за патайное галасаваньне, Шувалов ставіць рэзалюцыю на адкрытае галасаваньне. Ня пытаючыся хто за, ад разу пытаецца „хто проці рэзалюцыі?“ Вялізарная большасьць зьезду падымае рукі. „Опустіть не поняли! Я спрашиваю, кто против?“ крычыц Шувалов, бяручыся рукою за леварвэр. І гэтак да пяцех разоу. Рэзультат зауседы той самы. Вялізарная большасьць зьезду, ня гледзячы навет на страх перад узброенымі чарвонааармейцамі, галасуе проці. Бачучы, што нічога ня зробіш, кіраўнік зьезду Щувалов, абявшчае, што самаазначэньне будзе адбывацца па валасьцях, што хто проціў- няхай едзе дамоў, а няхай астануцца тыя валасьці, каторыя за-рэзалюцыю. Але аказуецца, што навет у тых валасьцях, каторыя, здавалася, былі за рэзалюцыю ня усе райены за рэзалюцыю. У канцы выясьняецца, што траха няма тае валасьці, з каторай хоць-бы большасьць была за рэзалюцыю. Дык Шувалов абвяшчае конфэрэнцыю не адбытай і распушчанай. У гэты самы час арэштоўваюць двох дэлегатаў зьезду (конфэрэнцыі). Але іншыя дэлегаты і кучы людзей на вуліцы учэпляюцца і не даюць арэштаваных. Затое уздымаецца паніка, дэлегаты бягуць да свіах коняй і борзда уцікаюць дамоў. Адылі невялічкая частка людзей, што былі за рэзалюцыю, траху прыастаецца. Гэтую частку агітуюць камуністы і яна пастанаўляе весьці зьезд далей, але адлажыць пасяджэньне да заутра. На заўтрае 27 жніуня зьбіраецца на пасяджэньне яшчэ меней. Аказуецца, што навет, выбраны 25 жніуня прэзыдыум, паехаў дамоў. Выбіраецца новы прэзыдыум дзеля таго, што людзей асталося надта мала, абвяшчаецца нарада, а не конфэрэнцыя. Цяпер налічаваюць усіх учасьнікау толькі 82 чал. Запрауды-ж бяз упушчаных не дэлегатаў вайсковых, правомочных учасьнікаў было ня болей 50 чал. Але і лік гэтых з кожнай часіною меншаў і у канцы асталася зусім невялічкая жменька. Жменька гэтая ведама ужо выносіла рэзалюцыю аднагалосна.

АЛЬШАНЕЦ.

◆◆◆◆◆◆

## Да ведама арэндатароў зямлі.

Устаноўчы Сойм у пачатку сваёй дзейнасьці выдаў устаў аберагаць арэндатароў зямлі ад самовольля земляўласьнікаў (памешчыкаў). Ен ня быў аб'яўлен дзеля некаторых спэцыяльных прычын, на адстараненьні каторых Устаў быў апавешчан у „Урадовым Весьніку“ № 49

Галоўные пункты Устава гэтыя: 1) землеўласьнік ня мае права выдаліць з арэнауемай зямлі тых арэндатароў, якія выпаўняюць умовы кантрактныя і 2)тыя арэндатары якія былі выдалены судавым парадкам маюць права вярнуцца на свае мейсьцы, калі на яго мяйсцо другога арэндатара не знайшлося. Дзеля важнасьці Устава прыводзім яго тут споўна: „Дзеля замены Устава ад 31 сакавіка 1920 г. і яго дапаўненьня ад 22 красавіка 1920 г, выдаецца Ўстаў:

§ І. Зямля, каторай карыстаўся земляўласьнік перад вайной, цяпер не абрабляецца і на каторую ня будзе зроблена арэндных кантрактаў да 23 красавіка 1920 г. павінна быць здана ў арэнду, у першы чарод, беззямельным і малазямельным на ня больш чым 3 гадовы срок; калі такіх ня знайдзецца, то землі гэты павінны быць зданы бязплатна ў арэнду тым, хто згодзіцца нясьці ўсе налогі, накладаемыя Гаспадарствам на гэты землі.

§ ІІ. Зямлю земляўласьнікаў, нявыпаўняючых

